Пралягары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

31 ЛІПЕНЯ 1927 г.
№ 13 (38)



3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ ЗЬМЕНЕ АРТ. 13 ПАСТАНОВЫ ЗА 8 САКАВІКА 1927 Г. АБ ПАРАДКУ АДВОДУ ВУЧАСТКАЎ ЗЯМЛІ ДЛЯ ЛЕСАПРАМЫСЛОВЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ ПАД СКЛАДЫ ЛЕСАМАТАР'ЯЛАЎ*).

Эканамічная Нарада пры Савеце Народных Камісараў БССР пастанаўляе: канец арт. 13 пастановы за 8 сакавіка 1927 г. „Аб парадку адводу вучасткаў зямлі для лесапрамысловых арганізацый пад склады лесаматар'ялаў" зрэдагаваць так:

„Прыватныя лесапрамыслоўцы маюць права на часовы адвод ім вучасткаў толькі па ўзаемнай згодзе з землякарыстальнікамі на арэндных умовах, пры гэтым у сельскіх мясцовасьцях з дазволу раённых выканаўчых камітэтаў, а ў гарадох і мястэчках—з дазволу на гэта органаў, якія ведаюць камунальнаю гаспадаркаю".

Выкон. абавязкі Старшыні Эканамічнай
Нарады пры СНК БССР **С. Карп.**

Адказны Сакратар Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР **В. Крывіцкі.**

26 чэрвеня 1927 г.
№ 1621.

---

Зацьвярджаю:
Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР М. Карклін.
10 чэрвеня 1927 г.

## 2. Пастанова Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР

АБ ПАРАДКУ ПЕРАХОДУ НА МЭТРЫЧНУЮ СЫСТЭМУ Ў ЗАГАТОЎКАХ І ГАНДЛЁВЫХ АПЯРАЦЫЯХ З ЛЁНАМ, ПЯНЬКОЮ, ДЖУТАМ, КЕНАФАМ І ІНШЫМІ ВАЛАКНІСТЫМІ МАТАР'ЯЛАМІ.

Міжведамственная Мэтрычная Камісія пры Эканамічнай Нарадзе БССР пастанаўляе:

1. Установіць канчатковы тэрмін увядзеньня мэтрычнай сыстэмы ва ўсіх апярацыях, зьвязаных з загатоўкаю, купляю і продажам лёну, пяньці—1-га ліпеня 1927 г.

*Увага* 1. Тэрмін мэтрызацыі загатовак і гандлю джутам, кенафам і іншымі валакністымі матар' яламі, будзе ўстаноўлены спэцыяльнаю абавязковаю пастановаю Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі.

---

*) Надрукавана ў „Бюл. СНК БССР." № 8—1927 г., стар. 5.

*Увага.* 2. Пераход на ўжываньне мэтрычных мерак можа быць зроблены і раней установленага тэрміну ў залежнасьці ад таго, як падрыхтавана да рэформы даная загатоўчая і гандлёвая арганізацыя.

2. Для выкананьня пункту 1-га гэтай пастановы ўсе прадпрыемствы і асобы, якія займаюцца загатоўкаю і гандлем лёну і пянькі, павінны да вызначага вышэй тэрміну мець у выстарчальнай колькасьці вагі, гіры і іншыя вымернікі ў мэтрычнай сыстэме, з кляймом праверачных палат.

3. Персанал загатоўчых пунктаў павінен даваць сялянам на іх запатрабаваньні даведкі аб вазе ў расійскіх мерках прадукцыі, якая здаецца імі.

4. Пры вылічэньнях, афіцыйных катыроўках і запісах у гандлёвых і бухгальтэрскіх кніжках, ужываць наступныя асноўныя разьліковыя мэтрычныя адзінкі:

для аплаты гандлю (экспорт і дастаўка сырцу для прамысловасьці) — тонна (1000 кілёграмаў);

для раздробнага гандлю (купля лёну і пянькі ў вытворца) — кілёграм.

*Увага.* Разьмеры кіп будуць установлены дадаткова, як стандартныя вялічыні.

5. З пачатку новага справаздачнага году апараты, якія загатаўляюць лён і пяньку, у разрахунках, вылічэньнях і пры падлічваньні тавараў павінны перайсьці цалкам на мэтрычную сыстэму.

6. Усе загатоўшчыкі лёну і пянькі павінны неадкладна распачаць дастаўку загатоўчым пунктам мэтрычнага вагавага інвэнтару, мэтрычнай літаратуры, табліц, плякатаў і інш. і падрыхтоўку пэрсаналу на мясцох.

7. Даручыць Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР выдаць на працягу двух тыдняў адпаведную інструкцыю аб падрыхтоўцы і правядзеньні мэтрычнай рэформы ў загатоўках лёну, пянькі, джуту і іншых валакністых матар'ялаў.

8. Ажыцьцяўленьне гэтай пастановы ўскладаецца на акруговыя выканаўчыя камітэты і акруговыя мэтрычныя камісіі.

9. Службовыя асобы, вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы, прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. арт. 107, 108 Крымінальнага Кодэксу, а прыватныя асобы—у парадку, вызначаным палажэньнем аб парадку выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне (З. З. БССР 1925 г. № 31, арт. 288).

Старшыня Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі
пры Эканамічнай Нарадзе БССР **А. Каплан**.

Сакратар Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі
пры Эканамічнай Нарадзе БССР **М. Варфман**.

10 чэрвеня 1927 г.
№ 22.
г. Менск.

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗМАГАНЬНІ З ВАЛАКІТАЮ.

*Усім органам Юстыцыі.*

Цяпер вядзецца надзвычайна важная і цяжкая праца па рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату. Бюракратызму і валакіце абвешчана вайна.

Органы Юстыцыі павінны заняць у змаганьні з валакітаю самую рашучую пазыцыю.

З гэтай прычыны Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім без выключэньня працаўніком судовага, сьледчага і пракурорскага апаратаў неадкладна зрабіць усе залежачыя ад іх захады да прысьпешаньня справавядзеньня ў органах Юстыцыі, да зьнішчэньня нядбайнасьці ў працы і да максімальнага запаўненьня працай устаноўленага законам працоўнага часу.

Тэрміны, устаноўленыя Працэсуальным Кодэксам, паасобнымі дырэктывамі Народнага Камісарыяту Юстыцыі і іншымі ўпаўнаваженымі на гэта органамі павінны захоўвацца бяз жадных зьмен. Кожныя зьмены ўстаноўленага законам або дырэктываю тэрміну павінны рабіцца толькі з адпаведнага дазволу вышэйшых над імі органаў.

За беспадстаўныя пропускі тэрмінаў і наогул за ўсякую валакіту, нядбайнасьць або нясумленнасьць паасобных супрацоўнікаў у працы вінаватыя зараз-жа пасьля выяўленьня будуць сурова карацца пракуратураю Рэспублікі. Прапануецца акруговым пракурорам, а ў належных выпадках старшыням акруговых судоў выграшаць важнейшыя выпадкі валакіты ў органах Юстыцыі, праяўляючы пры гэтым максімум устаноўленай законам строгасьці і выходзячы з прагвіла, што за дакладнасьць выкананьня адказваюць перад акруговым пракурорам і старшынёю акруговага суду тыя асобы, якім беспасрэдна даручана выкананьне па справе. Аб найбольш важных выпадках валакіты і аб зробленых захадах прапануецца ім неадкладна паведамляць у Народны Камісарыят Юстыцыі.

Асабліва ўважліва і хутка павінны выконвацца даручэньні ўрадавых і дырэктыўных органаў.

Адначасна з зьнішчэньнем выпадкаў валакіты ў апараце Народнага Камісарыяту Юстыцыі прапануецца ўсім органам Юстыцыі ўзмоцніць кантроль за выкананьнем іх даручэньняў іншымі савецкімі органамі ў межах і на падставе дзеючых законаў.

Час. вык. абав. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман**.

22 чэрвеня 1927 г.
№ 51.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ДАЧЫ ЗЬВЕСТАК МУНІЦЫПАЛЬНЫМ ЗАМЕЖНЫМ УСТАНОВАМ.

*Усім акруговым пракурорам і старшыням акруговых судоў.*

У апошні час бываюць выпадкі, калі замежныя муніцыпальныя ўстановы зварочваюцца да ўстаноў БССР аб высылцы ім тых ці іншых зьвестак.

Гэтым прапануецца ніякім чынам не адказваць беспасрэдна на гэтыя запытаньні, а абавязкова кожны раз накіроўваць гэтыя запытаньні ў Народны Камісарыят Юстыцыі, які і будзе ўзгадняць гэтыя запытаньні з Упаўнаважаным Народнага Камісарыяту Замежных Спраў пры Урадзе БССР.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

За Пам. Пракурора Рэспублікі **А. Кіпарысаў.**

5 чэрвеня 1927 г.
№ 56.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ СКАРЫСТАНЬНІ ПАДСЬЛЕДНЫХ ЗЬНЯВОЛЕНЫХ НА РАБОТАХ.

*Усім Акруговым Пракурорам і Старшыням Акруговым Судоў.*

Паводле Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР ўсе зьняволеныя, ў тым ліку і падсьледныя зьняволеныя, могуць быць скарыстаны на тых ці іншых работах. Пры гэтым падсьледныя зьняволеныя не скарыстоўваюцца на работы толькі тады, калі такое скарыстаньне будзе забаронена тымі органамі, за якімі яны лічацца.

З гэтай прычыны прапануецца Вам растлумачыць усім падпарадкаваным Вам органам (сьледчым, органам дазнаньня, народным судом), каб яны ў сваіх пастановах аб выбары меры спыненьня злачынства, калі пасылка падсьледнага зьняволенага на працу можа шкодзіць ходу сьледзтва або калі зьняволеныя могуць уцячы, абавязкова паказвалі, што даны зьняволены ня можа быць пасланы на работы.

Пры абсьледаваньні папраўна-працоўнага дому Пракуратура павінна зварочваць увагу на тое, як выконваюцца адпаведнымі органамі патрабаваньні гэтага распараджэньня.

Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

Час. вак. абав. Пам. Пракурора Рэспублікі **А. Кіпарысаў.**

5 чэрвеня 1927 г.
№ 57.

---

## 6. Растлумачэньне Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ РАЗГЛЯДЗЕ Ў СУДОВЫХ УСТАНОВАХ ІСКАЎ, ЯКІЯ ПАДАЮЦЦА ПРАЦАЎНІКАМІ ПРАЦОЎНЫХ КАЛЯКТЫВАЎ.

У разьвіцьцё пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 8 сьнежня 1926 г. № 262/148 „Об условиях труда лиц, занятых в предприятиях и трудколлективах, находящихся в ведении Комитетов Бирж Труда“ („Известия НКТ СССР“ 1926 г. № 51-52), Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Працы растлумачваюць:

Іскі асоб, якія заняты ў працоўных калектывах у парадку наймаў (паводле працоўнага дагавору) і ў парадку працоўнай дапамогі (пераменны склад), аб усіх відах заработнай платы вырашаюцца судовымі ўстановамі ў агульна-ўстаноўленым парадку, пры гэтым пры разглядзе іскаў асоб, якія працуюць у парадку наймаў, ужываюцца правілы Кодэксу Законаў аб Працы, а да іскаў асоб, якія працуюць у парадку аказаньня працоўнай дапамогі (пераменны склад)—таксама і пастанова Народнага Камісарыяту Працы СССР за 8 сьнежня 1926 г. № 262/148. У абодвых выпадках павінна быць пісьмовая даведка аб тым, у якім парадку даная асоба працавала ў працоўным калектыве.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі і Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

13 ліпеня 1927 г.
№ 63.

---

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ СКЛАДЗЕ РАЁННЫХ ЗЯМЕЛЬНЫХ КАМІСІЙ.

*Усім акруговым пракурорам.*

У Пракуратуры Рэспублікі ёсьць зьвесткі, што часта раённыя зямельныя камісіі разглядаюць справы ў незаконным складзе, каапгуючы ў склад камісіі асоб, не зацьверджаных акруговым выканаўчым камітэтам.

Бяручы гэта пад увагу, прапануецца Вам наглядаць заўсёды за тым, каб далей гэтага ня было, а калі гэта будзе дапушчана старшынямі раённых зямельных камісій—прыцягваць вінаватых кожны раз да дысцыплінарнай адказнасьці паводле 1 ч. арт. 106 К. К з санкцыяю паводле 2 ч. арт. 105 К. К.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **М. Сегаль.**

Чав. вык. аб. Пракурора Рэспублікі **А. Кіпарысаў.**

13 ліпеня 1927 г.
№ 65.

---

## 8. Пастанова Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР

АБ УМОВАХ І ПАРАДКУ ВЫСЯЛЕНЬНЯ ГРАМАДЗЯН З ПАМЯШКАНЬНЯЎ, ЯКІЯ ІМІ САМАВОЛЬНА ЗАНЯТЫ.

У разьвіцьцё пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 19 лютага 1927 году „Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках“ (З. З. БССР 1927 г., № 12, арт. 42), Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Ўнутраных Спраў пастанаўляюць:

1. Грамадзяне, якія самавольна занялі памяшканьне да моманту ўваходжаньня ў законную сілу пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 19 лютага 1927 г.

„Аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з занятых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчках“, высяляюцца з гэтых памяшканьняў судом на падставе п. „е“ арт. 1 пастановы ЦВК БССР за 17 жніўня 1923 г. (С. У. БССР 1923 г., № 15-16, арт. 133).

2. Калі-ж асоба самавольна заняла памяшканьне пасьля ўваходжаньня ў законную сілу паказанай вышэй пастановы ЦВК і СНК БССР за 19 лютага 1927 г., то высяляцца яна можа толькі ў парадку, прадугледжаным гэтаю пастановаю. Гэта значыць, што грамадзяне, якія самавольна ўсяліліся, высяляюцца судом, калі занята памяшканьне, што не ўваходзіць у камунальны фонд (п. „е“ арт. 1); калі-ж было занята памяшканьне, якое ўваходзіць у камунальны фонд (у тым ліку і 30 проц. норма ў прыватных будынках), то паводле п. „в“ арт. 2 высяленьне робіцца ў адміністрацыйным парадку, прадугледжаным арт. арт. 3—5.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман**.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль**.

7 ліпеня 1927 г.
№ 67.

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ЗМАГАНЬНІ З ШЫНКАРСТВАМ І ТРЫМАНЬНЕМ ПРЫТОНАЎ НА ТЭРЫТОРЫ РАСКВАТЭРАВАНЬНЯ ВАЙСКОВЫХ ЧАСЬЦЕЙ.

*Усім акруговым пракурорам, копія Ваеннаму Пракурору Беларускай Ваеннай Акругі.*

З зьвестак, якія ёсьць у Ваеннага Пракурора Беларускай Ваеннай Акругі, відаць, што да гэтага часу бываюць выпадкі, калі адміністрацыйныя аддзелы акруговых выканаўчых камітэтаў не звярочваюць належнай ўвагі на змаганьне з шынкарствам і трыманьнем прытонаў, галоўным чынам, на тэрыторыі раскватэраваньня вайсковых часьцей.

У сувязі з гэтым прапануецца Вам зрабіць рашучыя захады да змаганьня з гэтым праз выяўленьне выпадкаў шынкарства і трыманьня прытонаў і прыцягненьне вінаватых да адказнасьці паводле адпаведных артыкулаў Кр. Код. (140, 171 і г. д.).

Апроч таго Вам беспасрэдна трэба ўвайсьці ў сувязь з камандаваньнем раскватэраваных вайсковых часьцей, каб пры іх беспасрэднай дапамозе выявіць усіх вінаватых у паказаным вышэй і зьнішчыць зусім гэтую зьяву.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
І Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі **С. Гохман**.

Час. вык. аб. Пам. Пракурора Рэспублікі **А. Кіпарысаў**.

20 ліпеня 1927 г.
№ 69.

---

## 10. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ВЯДЗЕНЬНІ І ЗАПАЎНЕНЬНІ КНІГ ЗАПІСАЎ АКТАЎ ГРАМАДЗЯНСКАГА СТАНУ.

*Выдана на падставе ўвагі да арт. 1-га першага дадатку да Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы).*

### I. Агульныя палажэньні.

1. Органы запісаў актаў грамадзянскага стану вядуць наступныя кнігі: 1) аб нараджэньні, 2) аб сьмерці, 3) аб шлюбах, 4) аб разлуках, 5) аб усынаўленьні, 6) аб зьмене прозьвішча або імя.

Гэтыя кнігі друкуюцца па форме, паказанай ў гэтай інструкцыі, і пры запаўненьні іх службовыя асобы, якія робяць запісы актаў грамадзянскага стану, павінны кіравацца адпаведнымі артыкуламі Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы і першага да яго дадатку, выданьня 1927 году, а таксама інструкцыяю Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

2. Усе рэгістрацыйныя кнігі мясцовых органаў ЗАГС вядуцца ў двох экзэмплярах.

Адзін экзэмпляр заўсёды захоўваецца ў адпаведным мясцовым органе, а другі экзэмпляр запісу актаў грамадзянскага стану: шлюбу, разлукі, нараджэньня і сьмерці, штомесяц перадаецца раённаму статыстыку (гарадзкімі ЗАГС'амі беспасрэдна ў акруговыя статыстычныя бюро), які, пасьля праверкі правільнасці і паўнаты запаўненьня запісаў павінен накіроўваць іх у адпаведныя акруговыя статыстычныя бюро, апошнія, пасьля распрацоўкі ва ўстаноўлены 6-ці месячны тэрмін, перасылаюць ў адпаведны акруговы п/аддзел ЗАГС для захаваньня ў архіве.

3. Кнігі актаў грамадзянскага стану адкрыты для ўсіх зацікаўленых асоб, якія маюць права атрымоўваць выпісы, заплаціўшы за іх устаноўленую плату.

4. Пры рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану першыя і другія (адрыўныя) экзэмпляры актавых запісаў запаўняюцца адначасна, спачатку першыя іх бакі, потым другія (адваротныя).

5. У правым рагу ўсіх запісаў, і ў першым, і ў другім экзэмплярах, ставіцца чарговы нумар запісу. Нумарацыя вядзецца на кожны род акту і павінна быць паступоваю і бесьперарыўнаю на працягу году.

6. У кнігах аб нараджэньні і сьмерці, апроч агульнага парадкавага нумару, ставіцца асобны чарговы нумар асобна для мужчын і жанчын.

7. Запісы ў актавых кнігах робяцца зусім выразным пісьмом, абавязкова атрамантам, а не карандашом.

8. Скарочваньне слоў і падчыстка ў актавых кнігах не дазваляецца (№ 14).

9. Усе папраўкі або прыпіскі, якія робяцца пры запісе акту, павінны быць абавязкова адзначаны ў графе: „розныя адзнакі“.

10. Кожны акт, запісаны ў актавыя кніжкі, павінен быць падпісаны адпаведнаю службоваю асобаю зараз-жа пасьля запісі, а таксама справаводам або рэгістратарам.

*Увага*. У сельскіх і местачковых саветах можа быць адзін подпіс.

11. Аб усіх зьменах запісаў, якія зроблены пасьля адсылкі аднаго экзэмпляру рэгістрацыйнай кнігі раённаму статыстыку, мясцовы аддзел павінен зараз-жа паведаміць раённага статыстыка і пераслаць адзін экзэмпляр запісаў, а апошні накіроўвае іх акруговаму статыстычнаму бюро, які пасьля сканчэньня 6-месячнага тэрміну зварочвае акруговаму п/аддзелу ЗАГС.

## II. Аб парадку запаўненьня актавых кніг аб нараджэньні.

Да заявы аб нараджэньні павінна быць дадана паказаная ў арт. арт. 10 і 11 першага дадатку да Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы, падпіска бацькоў аб нараджэньні дзіцяці.

У графе 7, 8, 9 адзначаецца нацыянальнасьць і сацыяльнае становішча бацькоў з слоў заяўнікаў.

Калі адказ не прадугледжаны ў п. п. 7 і 9, то запісваюцца дадатковыя словы: напрыклад—кітаец, эстонец, служыцель культу і г.д.

У графе 10 паказваецца дакладны адрас бацькоў, г. з. месца, дзе яны заўсёды жывуць.

У графе 11 адзначаецца грамадзянства дзіцяці, калі грамадзянства бацькоў рознае, а таксама прозьвішча выхавальнікаў дзіцяці, калі няма бацькоў (пры рэгістрацыі падкідышаў) і г. д.

Тут-жа паказваецца назва радзільнага прытулку або прозьвішча лекара, якія выдалі пасьведчаньне аб нараджэньні, калі такія дакументы пададзены заяўнікамі.

У графе 14 адзначаецца аб выдачы пасьведчаньняў, паказваючы аб аплаце гэрбавага збору, або аб звальненьні ад апошняга, аб устанаўленьні імя па бацьку народным судом, аб зьмене прозьвішча, або імя, аб усынаўленьні і г. д., г. зн. тыя зьмены, якія былі зроблены ў гэтым акце пасьля яго запісу.

Мёртванароджаныя рэгіструюцца ў кніжцы нараджэньняў, пры гэтым для статыстыкі ў графе 11 (асобныя адзнакі) адзначаецца „мёртванароджаны“.

## III. Аб парадку запаўненьня актавых кніг аб сьмерці.

Прычыны сьмерці (гр. 4) запісваюцца на падставе лекарскіх пасьведчаньняў, выдадзеных лекарам або адпаведнаю ўстановаю, а там, дзе гэта немагчыма—паказаньняў двох сьведкаў.

У графе 5, 6, 7, 8 і 9 адзначаецца: пол памёршага, сямейнае становішча, нацыянальнасьць і сацыяльнае становішча, пры гэтым пры адзначэньні ў графе 9-й п. „0“—трэба мець на ўвазе адзначэньне двох слоў, слова „утрыманец“ і сацыяльнае становішча асобы, у якой ён знаходзіцца на ўтрыманьні; калі утрыманец знаходзіцца на ўтрыманьні рабочага, то адзначаецца слова „утрыманец“ і слова „рабочы“, калі ўтрыманец знаходзіцца на ўтрыманьні дамаўласьніка, то адзначаецца слова „утрыманец“ і слова „дамаўласьнік“, і г. д., апроч таго ў графе 9-б паказваецца промысел (рабочы, служачы, гаспадар-адзіночка, гаспадар з наймавымі рабочымі, гаспадар з дапаможнымі членамі сям'і, вольная прафэсія).

У графе 11 адзначаецца аб тым, што запіс зроблены на падставе пастаноў народнага суду, пратаколу міліцыі і г. д., паказваюцца дакумэнты, пададзеныя пры рэгістрацыі сьмерці (пасьведчаньне боль-

ніцы, лекара аб сьмерці з паказаньнем нумару і даты іх выдачы), а таксама паказваецца на чые сродкі жыў памёршы,—на свае сродкі ці не на свае, і на чые дакладна—бацькі, маткі, сястры, органаў сацыяльнага забесьпячэньня і г. д.

У графе 14 адзначаецца аб выдачы пасьведчаньня з паказаньнем аб аплаце гэрбавага збору або аб звальненьні ад такога, а таксама робяцца ўсе папраўкі і зьмены, якія былі пасьля таго, як зроблены запіс акту.

## IV. Аб парадку запаўненьня актавых кніг аб шлюбе.

Службовая асоба, якая рэгіструе шлюб, павінна дакладна адзначыць, што да моманту запісу не паступіла ніякіх заяў аб законных перашкодах да рэгістрацыі.

У графе 3 дакладна паказваецца час нараджэньня жаніха і нявесты ў асобку, а калі няма такіх зьвестак, то паказваюцца гады кожнага.

У графе 4 паказваецца час браньня шлюбу, гэта значыць або момант рэгістрацыі або (у выпадку, прадугледжаным арт. 3 Код. Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы) момант фактычнага шлюбу.

У графах 5, 6, 7, 8 і 9 адказы адзначаюцца з слоў кожнай асобы, якая бярэ шлюб: а) у які шлюб (па ліку); б) сямейнае становішча, в) нацыянальнасьць, г) сацыяльнае становішча.

У графе 11 паказваюцца ўсе заявы асоб, што бяруць шлюб, для якіх у кніжцы няма асобнай графы, напрыклад: адзнака аб згодзе супруга прыняць грамадзянства другога супруга (калі грамадзянства асоб, якія бяруць шлюб, рознае), згода асоб, якія бяруць шлюб, аб дзецях.

У графе 12 дакладна паказваюцца дакумэнты, пададзеныя кожнаю асобаю, якая бярэ шлюб, для пасьведчаньня свае асобы.

У графе 14 адзначаецца аб выдачы пасьведчаньняў, а таксама ўсе зьмены, зробленыя пасьля акту шлюбу, напрыклад: зьмена прозьвішча або імя, разлука і г. д.

## V. Аб парадку запаўненьня актавых кніг аб скасаваньні шлюбу

Графы 1, 1-а, 1-б, 3, 4 і 5 запаўняюцца ў такім самым парадку, як пры запісе шлюбу.

Графа 6-ая дзеліцца на тры часткі: а) адзначаецца лік дзяцей у асоб, якія касуюць шлюб, б) паказваецца імя і гады дзяцей, якія па згодзе мужа і жонкі астаюцца пры бацьку або матцы, в) дакладна паказваецца згода бацькоў адносна сродкаў на ўтрыманьне дзяцей і адзін другога, г. з. хто з бацькоў і ў якім разьмеры абавязуецца плаціць гэтыя сродкі.

У графах 7, 8 і 9 адзначаюцца адпаведныя назвы, як і ў кніжцы шлюбаў.

У графе 10 паказваецца адрэс касуючых шлюб, г. з. іх месца жыцьця пасьля скасаваньня шлюбу.

У графе 11 робяцца асобныя адзнакі, напрыклад: аб тым, што запіс аб скасаваньні шлюбу зроблены па ўзаемнай або аднабаковай заяве (з паказаньнем прозьвішча, імя і імя па бацьку заяўніка).

У графе 12 дакладна паказваюцца дакумэнты, пададзеныя асобамі, якія касуюць шлюб, пры скасаваньні шлюбу для пасьведчаньня свае асобы.

Трэба адзначаць, якою ўстановаю выдадзены дакумэнты, нумары дакумэнтаў, год, дзень і месяц выдачы.

У графе 13 касуючыя шлюб падпісваюцца сваім шлюбным прозьвішчам.

У графе 14 адзначаецца аб выдачы пасьведчаньня, а таксама аб усіх зьменах, якія зроблены пасьля гэтага запісу.

## VI. Аб парадку запаўненьня актавых кніг аб зьмене прозьвішча і імя

У графе 3 паказваецца год, месяц і дзень нараджэньня асобы, якая мяняе прозьвішча або імя, а калі няма такіх зьвестак, то паказваецца лік гадоў.

У графе 4 дакладна паказваецца месца нараджэньня асобы, якая мяняе прозьвішча або імя, г. з. горад, акруга, раён, вёска.

У графе 5 паказваецца, з слоў заяўніка, месца жыцьця, дзе жыў заяўнік да кастрычніка 1917 г. і пасьля гэтага часу, адзначаючы тэрміны і даты пражываньня ў кожнай мясцовасьці.

У графах 6 і 7 адзначаецца сямейнае становішча і лік дзяцей.

У графе 8 дакладна паказваюцца імены, прозьвішча, год, дата і месца нараджэньня непаўналетніх дзяцей, якія мяняюць прозьвішча.

У графе 9 адзначаецца сацыяльнае становішча заяўніка.

У графе 11 адзначаецца аб згодзе другога супруга на зьмену прозьвішча непаўналетнім дзецям і дазвол (нумар і дата) вышэйшага над ім органу ЗАГС на зьмену прозьвішча.

Графы 12 і 13 запаўняюцца так, як і ў папярэдніх запісах.

У графе 14 адзначаецца аб выдачы пасьведчаньня і аб усіх зьменах, якія зроблены ў гэтым акце пасьля яго запісу.

## VII. Аб парадку запаўненьня заяў аб пахаджэньні дзяцей.

Заявы пішуцца ў двух экзэмплярах: адзін экзэмпляр астаецца ў справах адпаведнага органу ЗАГС, а другі, пасьля ўстанаўленьня бацькі (арт. 42—43 Кодэксу Законаў аб Шлюбе, Сям'і і Апецы), выдаецца на рукі матцы.

У графе 3, 4 паказваецца час нараджэньня дзіцяці, або калі дзіця яшчэ не нарадзілася, паказваецца колькі часу прайшло з моманту зараджэньня.

*Увага.* Зьвесткі аб часе зараджэньня дзіцяці, якое яшчэ не нарадзілася, запісваюцца ў кнігу выключна на падставе лекарскага пасьведчаньня.

Пасьля подпісу заявы маткаю дзіцяці запаўняецца блянк паведамленьня, які знаходзіцца пры заяве, і пасылаецца бацьку дзіцяці.

У графе 7 адзначаецца дата ўручэньня паведамленьня бацьку дзіцяці, зьвесткі аб атрыманьні або не атрыманьні ў тэрмін ад бацькі адказу аб прызнаньні сябе бацькам, або аб падняцьці судовай спрэчкі.

## VIII. Аб парадку запаўненьня актавых кніг аб усынаўленьні.

У графе 1 запісваецца прозьвішча ўсынаўляемага, якое дадзена яму ўсынаўіцелем.

У графе 4 паказваецца месца нараджэньня ўсынаўляемага.

У графе 6 паказваюцца ўсынавіцелі.

У графах 7 і 8 паказваюцца сапраўдныя бацькі ўсынаўляемага, а калі яны невядомы, то паказваюцца апякуны або папячыцелі, на ўтрыманьні якіх знаходзіўся ўсынаўляемы (напрыклад, у графе „бацька“ трэба адзначаць „апякун“).

У графе 9 адзначаецца сацыяльнае становішча ўсынавіцеляў і бацькоў або апякуноў.

У графе 11 паказваецца назва органу апекі, якім зроблена пастанова аб усынаўленьні, нумар і дата пастановы.

У графе 12 паказваюцца дакумэнты органу апекі, які зрабіў пастанову аб усынаўленьні.

У графе 13 павінны быць подпісы ўсынавіцеляў толькі тады, калі яны асабіста прыносяць копію пастановы органу апекі аб усынаўленьні.

Органы ЗАГС на працягу трох дзён пасьля рэгістрацыі акту аб усынаўленьні паведамляюць аб зробленым запісе ў месца захаваньня акту нараджэньня ўсынаўляемага для адпаведных адзнак.

Органы ЗАГС, у якіх знаходзіцца на захаваньні запіс аб нараджэньні ўсынаўляемага, пасьля атрыманьня паведамленьня аб усынаўленьні, зараз-жа робяць адпаведныя адзнакі ў кнізе актаў нараджэньняў (у графе 14 асобныя адзнакі), паказваючы прозьвішча ўсынаўляемага, нумар, год, месяц і дзень пастановы.

Орган ЗАГС, які зарэгістраваў акт усынаўленьня, павінен па просьбе зацікаўленых асоб выдаць пасьведчаньне аб усынаўленьні

## IX. Аб парадку запаўненьня пасьведчаньняў, якія сьведчаць акты грамадзянскага стану.

1. З часу ўвядзеньня новых актавых кніг выпісы і з старых мэтрычных і з новых рэгістрацыйных кніг павінны мець выгляд пасьведчаньняў паводле новых устаноўленых форм, запаўняюцца па формах на двох мовах—на адпаведнай нацыянальнай на першым боку пасьведчаньня і на расійскай—на адваротным боку пасьведчаньня.

2. Пасьведчаньні павінны быць падпісаны зусім выразным пісьмом, ніякіх падчыстак і запэцканьняў у пасьведчаньнях, якія выдаюцца, быць не павінна.

3. На пасьведчаньнях, якія выдаюцца, ставіцца нумар запісу данага акту, г. з. той нумар, пад якім запісаны гэты запіс у кнігах (на першым і адваротным боку пасьведчаньня).

4. Гэрбавы збор аплачваецца адпаведнымі гэрбавымі маркамі, якія налепваюцца на пасьведчаньне ў тым месцы, дзе напісана: „гэрбавы збор не бярэцца“. На тых пасьведчаньнях, з якіх гэрбавы збор не бярэцца, ніякіх адзнак аб няспраўленьні гэрбавага збору рабіць ня трэба, бо аб гэтым паказана ў самым тэксьце.

5. У графе: „асобныя адзнакі“ і на першым і на адваротным баках паказваецца, для чаго выдана пасьведчаньне (калі з яго не бярэцца гэрбавы збор), напрыклад: „выдана толькі для падачы ў школу, у міліцыю, для атрыманьня пасьведчаньня асобы і г. д.“.

Апроч таго ў гэтай графе робяцца і іншыя адзнакі, напрыклад: аб зьмене грамадзянства пры шлюбе, гады і прычыны сьмерці.

З часу выданьня гэтай інструкцыі касуецца інструкцыя Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў за 29 сьнежня 1926 году № 339.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі**.

Час. вык аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман**.

Нач. Адміністрац. Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў—Нач. Міліцыі і Крымінальнага Вышуку БССР **Я. Кроль**.

28 чэрвеня 1927 г.
№ 4989.

---

## 11. Абежнік Адміністрацыйнага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ ДАЧЫ ВАЙСКОВА-ПАДЛІЧАЛЬНЫМ ОРГАНАМ ЗЬВЕСТАК АБ ПАМЁРШЫХ ВАЙСКОВАПАВІННЫХ І АБ ПАРАДКУ ВЫДАЧЫ ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ АБ НАРАДЖЭНЬНІ І ПАСЬВЕДЧАНЬНЯЎ АСОБЫ ВАЙСКАВАПАВІННЫМ.

*Усім адміністрацыйным аддзелам акруговых выканаўчых камітэтаў.*

У адпаведнасьці з § 168 „Временного руководства для учета военнообязанных“ і § 117 „Временного руководства по приписке к призывным участкам и учету допризывников“, Народны Камісарыят Унутраных Спраў, для урэгуляваньня парадку дачы зьвестках, прадугледжаных гэтымі параграфамі, прапануе кіравацца наступным:

1. Раённыя і акруговыя органы ЗАГС штомесяц, не пазьней 15 дня наступнага месяца, павінны пасылаць у вайскова-падлічальныя органы (па месцы знаходжаньня вайсковапавінных на падліку) зьвесткі аб памёршых вайсковапавінных ад 19 да 40 гадоў уключна, якія знаходзяцца на падліку.

2. У памянёных зьвестках павінна быць паказана імя, імя па бацьку, прозьвішча і год нараджэньня вайсковапавіннага.

3. Паданыя пры рэгістрацыі сьмерці падлічальна-вайсковыя дакумэнты адсылаюцца органамі ЗАГС ў вайскова-падлічальныя органы, у якіх лічацца на падліку памёршыя вайсковапавінныя, разам з зьвесткамі, адзначанымі ў § 2.

4. Калі месца знаходжаньня на падліку памёршага вайсковапавіннага невядома, то адпаведнае паведамленьне аб сьмерці пасылаецца ў мясцовыя акруговыя вайсковыя камісарыяты або ў мясцовыя вайскова-падлічальныя органы (раённыя) па месцы сьмерці вайсковапавіннага.

5. Паведамленьні аб сьмерці асоб, якія належаць да начальніцкага складу, накіроўваюцца ў адпаведныя акруговыя вайсковыя камісарыяты па месцы знаходжаньня памёршых на падліку.

6. Пры выдачы пасьведчаньня асобы і пасьведчаньняў аб нараджэньні вайсковапавінных, што знаходзяцца на падліку і належаць да такога, органы, якія выдаюць пасьведчаньні асобы, і органы ЗАГС кіруюцца наступным:

а) дата нараджэньня асоб, якія радзіліся ў 1906 г. і раней, паказваецца ў пасьведчаньнях асобы і ў пасьведчаньнях аб нараджэньні і па новаму і па старому стылю;

б) дата нараджэньня асоб, якія радзіліся ў 1907 годзе і пазьней паказваецца ў пасьведчаньнях асобы і ў пасьведчаньнях аб нараджэньні толькі па новаму стылю.

7. Гэты абежнік паведаміць месцам для дакладнага і няўхільнага выкананьня.

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР, Нач. Адміністрацыйнага Кіраўніцтва НКУС—Нач. Міліцыі і Крымінальнага Вышуку Рэспублікі **Я. Кроль**.

18 ліпеня 1927 г.
№ 130.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ГРАНІЧНЫХ НОРМ ПРАЦОЎНАГА ЗЕМЛЯКАРЫСТАНЬНЯ ДЛЯ АСОБНЫХ СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРАК (АРТ. 94 ЗЯМЕЛЬНАГА КОДЕКСУ).

*Акруговым зямельным аддзелам, зямельным камісіям і земляўпарадчыкам.*

Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства за 4 красавіка 1925 г. № 17/3 г, выданы на выкананьне арт 94 Зямельнага Кодэксу, як гэта выявілася пры ўжываньні яго, з аднаго боку, мае некаторыя палажэньні, якія вельмі ўскладняюць працэс земляўпарадкаваньня і не апраўдваюцца практычнаю патрэбаю (у асобку—нормы надзяленьня рознымі сельска-гаспадарчымі ўгодзьдзямі па §§ 3 і 4), а з другога боку—патрабуе перапрацоўкі ў сувязі з пастановаю Эканамічнай Нарады БССР за 14 чэрвеня 1926 г., якою па гэтым пытаньні ўнесены дапаўненьні і ўдакладненьні.

З гэтай прычыны і выдаецца памянёны абежнік „Аб устанаўленьні граничных норм працоўнага землякарыстаньня для асобных сялянскіх гаспадарак“, а таксама касуецца абежнік за 4-га красавіка 1925 г. па гэтым пытаньні.

1. Па ўсёй тэрыторыі БССР ўстанаўляюцца на двор з 4-мя працоўнымі адзінкамі наступныя параённыя нормы забесьпячэньня зямлёю ўсіх угодзьдзяў ў гэктарах:

| №№ с.-г. раёнаў | Мінімальныя нормы (найменшыя) | Максімальныя нормы (найбольшыя) |
|---|---|---|
| 1 | 5,0 | 10,0 |
| 2 | 5,5 | 11,0 |
| 3 | 6,5 | 13,0 |
| 4 | 7,0 | 14,0 |
| 5 | 7,5 | 15,0 |

*Увага* 1. Устаноўленыя нормы маюць на ўвазе зямлю сярэдняй якасьці ў даным раёне, а дзеля гэтага яны могуць павялічвацца або памяншацца па ўнутрывясковай расцэнцы ў залежнасьці ад якасьці зямлі.

*Увага* 2. Пры ўжываньні параённых норм трэба захоўваць у гаспадарках, якія ўпарадкоўваюцца, нармальныя для данага раёну суадносіны асноўных угодзьдзяў (ворнай зямлі, сенажаці).

2. Пры вылічэньні ў гаспадарцы прысутных працоўных адзінак трэба кіравацца наступнымі каэфіцыентамі.

Мужчыны і жанчыны 16 г. і болей 1,0 прац. адзінкі
Падлеткі ободвых полаў ад 12 да 16 г. 0,5 „ „
Дзеці да 12 гад. . . . . 0,25 „ „

3. Гаспадаркі, якія маюць да 4-х працоўных адзінак, атрымоўваюць норму, устаноўленую для 4-х працоўных адзінак, а гаспадаркі, якія маюць больш 4-х працоўных адзінак, атрымоўваюць норму прапарцыянальна ліку прысутных працоўных адзінак.

4. Устаноўленыя нормы, зьяўляючыся сярэднімі для данага раёну, ня могуць прэтэндаваць на падлік усіх дробных асаблівасьцяй у землякарыстаньні паасобных гаспадарак і нават вёсак, а таму яны ў залежнасьці ад шэрагу акалічнасьцяй (розьніцы ў якасьці глебы, умоў рэльефу, забесьпячэньня вадою, адлегласьці ад рынку, агульнай забясьпекі насельніцтва зямлёю і г. д.), могуць быць у паасобных выпадках падвышаны або зьніжаны.

Паднімаць мінімальныя нормы дазваляецца да 20 проц., а максімальныя ( у выключных выпадках)—да 15 проц.

Зьніжаць мінімальныя нормы дазваляецца да 10 проц., а максімальныя—да 20 проц.

5. Рашэньне аб падвышэньні або зьніжэньні норм выносіцца камісіяю ў складзе: прадстаўніка раённага выканаўчага камітэту, земляўпарадчыка агранома, прадстаўніка сельскага савету і камітэту сялянскай узаемадапамогі, пасьля грунтоўнага дасьледаваньня зямель вёскі або паасобнай гаспадаркі, і зацьвярджаецца зямельнымі камісіямі пры разглядзе земляўпарадчага праэкту. У сувязі з гэтым камісія, якая робіць досьлед, павінна вызначыць пэўныя довады аб патрэбе зьмены норм, якія далі-б магчымасьць зямельным камісіям выносіць сваю пастанову без мясцовага агляду земляўпарадкоўваемай тэрыторыі.

6. Лішкі, адабраныя ад гаспадарак, якія маюць зямлю больш максімальных норм, залічаюцца ў зямельны фонд данай зямельнай грамады для разьмеркаваньня паміж безьзямельнымі і тымі малазямельнымі дварамі, зямельнае забесьпячэньне якіх меншае мінімальнай нормы. Калі-ж пасьля надзяленьня ўсіх безьзямельных і малазямельных двароў данай зямельнай грамады будзе яшчэ астанецца зямельны лішак, то такі разьмяркоўваецца прапарцыянальна працоўным адзінкам паміж дварамі, якія атрымоўваюць найменшую колькасьць зямлі на працоўную адзінку, пры гэтым бяруцца над увагу таксама і тыя двары, зямельнае забесьпячэньне якіх знаходзіцца ў межах паміж максімальнымі і мінімальнымі нормамі.

Дапрысяленьне ў зямельную грамаду або ўтварэньне з зямельяе новых землякарыстаньняў для двароў, якія ня былі ў данай зямельнай грамадзе, дазваляецца толькі пасьля надзяленьня ўсіх яго членаў па максімальнай норме.

7. Зямельныя правы паасобных двароў вызначаюцца на падставе даных, якія зьмяшчаюцца ў падворных сьпісах. Праверка і ўдакладненьне зямельных праў робіцца пасьля выяўленьня ўсёй плошчы зямель, якая знаходзіцца ў працоўным карыстаньні членаў данай грамады. Канчатковы сьпіс двароў, у якіх вызначана належачая ім колькасьць зямлі, пры надыходзячым земляўпарадкаваньні, паказваецца агульнаму сходу членаў зямельнай грамады. Скаргі па зьместу вызначаных такім спосабам зямельных праў раз глядаюцца зямельнымі камісіямі пры разглядзе земляўпарадчага праэкту.

*Увага.* Пры ўстанаўленьні зямельных праў фактычнае землякарыстаньне паасобных цераспалосных гаспадарак у натуры ня вымерваецца.

8. Калі сярод двароў, што земляўпарадкоўваюцца будуць гаспадаркі, якія прызнаны культурна-паказальнымі, а таксама гаспадаркі, якія зрабілі грунтоўныя мэліарацыйныя палепшаньні, то да такіх трэба ўжываць нормы, устаноўленыя Палажэньнем аб культурна-паказальных гаспадарках.

9. Справы, па якіх да выданьня гэтага абежніку зямельныя правы ўдзельнікаў земляўпарадкаваньня ўжо устаноўлены канчаюцца па старых нормах, у адносінах-жа да ўсіх іншых спраў трэба кіравацца гэтым абежнікам.

Д а д а т а к. Сьпіс адміністрацыйных раёнаў з разьмеркаваньнем іх па раёнах сельска-гаспадарчых.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня,
Мэліарацыі і Дзяржаўнай Зямельнай
Маемасьці НКЗ БССР **А. Шычко.**

22 чэрвеня 1927 г.
№ 28.

ДАДАТАК.

# РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ
## адміністрацыйных раёнаў па раёнах сельска-гаспадарчых.

| №№ | Разм. па с.-г. раёнах | НАЗВА РАЁНАЎ |
|---|---|---|
| | | **1. МЕНСКАЯ АКРУГА.** |
| 1 | I р-н | Самахвалавіцкі |
| 2 | „ | Капыльскі |
| 3 | II р-н | Астр.-Гарадзецкі |
| 4 | „ | Барысаўскі |
| 5 | „ | Грэскі |
| 6 | „ | Койданаўскі |
| 7 | „ | Смалявіцкі |
| 8 | „ | Сьмілавіцкі |
| 9 | III р-н | Заслаўскі |
| 10 | „ | Зембінскі |
| 11 | „ | Халопеніцкі |
| 12 | „ | Пухавіцкі |
| 13 | „ | Лагойскі |
| 14 | „ | Чэрвенскі |
| 15 | „ | Шацкі |
| 16 | „ | Узьдзенскі |
| 17 | IV р-н | Бярэзінскі |
| 18 | „ | Плешчаніцкі |
| 19 | „ | Бягомльскі |
| | | **2. БАБРУЙСКАЯ АКР.** |
| 1 | I р-н | Слуцкі |
| 2 | II р-н | Бабруйскі II |
| 3 | „ | Чырвонаслабод. |
| 4 | „ | Рагачэўскі |
| 5 | „ | Жлобінскі |
| 6 | „ | Гарадзецкі |
| 7 | „ | Буда-Кашалёўскі |
| 8 | III р-н | Асіповіцкі |
| 9 | „ | Старадароскі |
| 10 | „ | Старобінскі |
| 11 | „ | Любаньскі |
| 12 | „ | Сьвіславіцкі |
| 13 | „ | Бабруйскі I |
| 14 | „ | Парыцкі |
| 15 | „ | Стрэшынскі |
| 16 | IV р-н | Клічаўскі |
| 17 | „ | Глускі |
| | | **3. МАЗЫРСКАЯ АКР.** |
| 1 | IV р-н | Жыткавіцкі |
| 2 | „ | Пятрыкоўскі |
| 3 | „ | Капаткевіцкі |
| 4 | „ | Калінкавіцкі |
| 5 | IV р-н | Азерыцкі |
| 6 | „ | Мазырскі |
| 7 | V р-н | Тураўскі |
| 8 | „ | Лельчыцкі |
| 9 | „ | Каралінскі |
| 10 | „ | Нараўлянскі |
| 11 | „ | Юрэвіцкі |
| | | **4. ПОЛАЦКАЯ АКРУГА.** |
| 1 | III р-н | Ветрынскі |
| 2 | „ | Лепельскі |
| 3 | „ | Дрысьсенскі |
| 4 | „ | Бялынецкі |
| 5 | „ | Полацкі |
| 6 | „ | Ушачкі |
| 7 | „ | Ульскі |
| 8 | IV р-н | Асьвейскі |
| 9 | „ | Расонскі |
| 10 | „ | Дрэтуньскі |
| | | **5. ВІЦЕБСКАЯ АКРУГА.** |
| 1 | I р-н | Віцебскі |
| 2 | II р-н | Ліозьнянскі |
| 3 | „ | Сіроцінскі |
| 4 | „ | Гарадоцкі |
| 5 | III р-н | Суражскі |
| 6 | „ | Бешанковіцкі |
| 7 | „ | Чашнікаўскі |
| 8 | „ | Сенінскі |
| 9 | „ | Езярышчанскі |
| 10 | „ | Высачанскі |
| 11 | IV р-н | Межанскі |
| | | **6. АРШАНСКАЯ АКР.** |
| 1 | I р-н | Ляднянскі |
| 2 | „ | Мсьціслаўскі |
| 3 | „ | Горацкі |
| 4 | „ | Дрыбінскі |
| 5 | II р-н | Талачынскі |
| 6 | „ | Коханаўскі |
| 7 | „ | Аршанскі |
| 8 | „ | Копыскі |
| 9 | „ | Дубровенскі |
| 10 | II р-н | Расьнянскі |
| 11 | III р-н | Багушэўскі |
| 12 | „ | Круглянскі |
| 13 | „ | Чарэйскі |
| 14 | „ | Крупскі |
| | | **7. МАГІЛЕЎСКАЯ АКР.** |
| 1 | I р-н | Шклоўскі |
| 2 | „ | Магілеўскі |
| 3 | „ | Лупалаўскі |
| 4 | II р-н | Чавускі |
| 5 | „ | Крычаўскі |
| 6 | „ | Касьцюков. |
| 7 | „ | Журавіцкі |
| 8 | „ | Кармянскі |
| 9 | III р-н | Бялыніцкі |
| 10 | „ | Чэрыкаўскі |
| 11 | „ | Быхаўскі |
| 12 | „ | Прапойскі |
| 13 | „ | Чырвонапол. |
| 14 | „ | Хоцімскі |
| 15 | „ | Клімавіцкі |
| 16 | „ | Мілаславіцкі |
| 17 | IV р-н | Чачэвіцкі |
| 18 | „ | Бялынкавіцкі |
| | | **8. ГОМЕЛЬСКАЯ АКР.** |
| 1 | I р-н | Гомельскі |
| 2 | „ | Краснабудзкі |
| 3 | „ | Веткаўскі |
| 4 | II р-н | Дабрушскі |
| 5 | „ | Увараўскі |
| 6 | III р-н | Чэчэрскі |
| 7 | IV р-н | Дзятлаўскі |
| 8 | „ | Носаўскі |
| 9 | „ | Сьвяцілаўскі |
| 10 | „ | Рэчыцкі |
| 11 | „ | Холмецкі |
| 12 | „ | Брагінскі |
| 13 | „ | Горвальскі |
| 14 | V р-н | Хойніцкі |
| 15 | „ | Лоеўскі |
| 16 | „ | Камарынскі |
| 17 | „ | Васілевіцкі |

## 13. Абежнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй НКЗ БССР

### АБ РАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ І СПРАШЧЭНЬНІ ТЭХНІКІ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ РАБОТ.

*Усім акруговым зямельным аддзелам.*

Шырока ахапіўшые сялянскія масы імкненьне да правядзеньня земляўпарадкаваньня паставіла перад зямельнымі органамі задачу павялічыць тэмп земляўпарадчых мерапрыемстваў, а патрэба магчымага патаненьня земляўпарадчых работ і недахоп кваліфікаваных тэхнічных сіл настойліва патрабуюць максімальнай рацыяналізацыі гэтых работ і магчымага спрашчэньня тэхнікі земляўпарадкаваньня.

Аднак, умовы малазямельля і цеснаты ў нашай вёсцы, дзе селянін строга падлічае сваю зямельную плошчу, і патрэба давядзеньня земляўпарадкаваньня да двара—патрабуюць значнай дакладнасьці работ і пры складаньні асноўнага земляўпарадчага праэкту, і пры вызначэньні плошчаў у палёх севазвароту.

Апроч таго мера дакладнасьці каморніцка-тэхнічных работ абумоўльваецца патрэбаю скарыстаньня матар'ялаў земляўпарадкаваньня для будучых гэадэзычных, картаграфічных і кадастравых работ.

З гэтай прычыны спрашчэньне тэхнікі можа быць зроблена толькі ў межах дасягнутых да гэтага часу дакладнасьцяй і павінна ажыцьцяўляцца, галоўным чынам, у кірунку рацыяналізацыі і мэханізацыі спосабаў работы, якія давалі-б магчымасьць дасягаць тых-жа дакладнасьцяй пры меншай затраце працы і часу, а таксама ў максімальнай магчымасьці спрашчэньня земляўпарадчага справаводзтва.

Грунтуючыся на паказаным вышэй і да часу выданьня новай тэхнічнай інструкцыі, Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй прапануе кіравацца наступным:

1. Пратакол агляду мясцовасьці, якая земляўпарадкоўваецца, што складаўся на падставе арт. 14 тэхнічнай інструкцыі, замяніць кароткім запісам у штодзённым пратаколе аб тым, што агляд гэты зроблены, з спасланьнем на рысунак, складзены пры аглядзе, або на выкапіроўку, атрыманую пры „саабражэньні“ справы ў зямельным архіве акруговага зямельнага аддзелу.

2. Устаноўленыя граніцы тых дач, якія земляўпарадкоўваюцца, афармляць у далейшым не складаньнем палявога журналу, а простым запісам у штодзённым пратаколе наступнага: калі, кім і ў чыёй прысутнасьці рабілася адмежаваньне або аднаўленьне граніц, колькі ўстаноўлена па данай сумежнасьці гранічных ліній (без паказаньня меры румбаў і кутоў паміж імі) і подпіс сумежных землякарыстальнікаў (упаўнаважаных) аб тым, што ўстаноўленая граніца зьяўляецца бясспрэчнаю.

3. Для вызначэньня кірункаў і адлегласьцяй пры здымках ўнутранай сітуацыі шырока карыстацца бусольлю (калі ў яе зусім спраўная стрэлка), або вымяраць куты паўпрыёмам, дальнямерам і рэйкай, маючы пры гэтым на ўвазе, што даныя спосабы работы, там, дзе яны па ўмовах мясцовасьці могуць ўжывацца, даюць значную эканомію часу і створаць у тэхнікаў звычку да маючых быць у бліжэйшыя гады работ з мензулаю і да тахеамэтрычнай здымкі пры земляўпарадкаваньні.

4. Палігоны з вялікім лікам заваротных пунктаў разьбіваць дыяганальнымі ходамі на шэраг меншых з такім разрахункам, каб

кожны з іх зьмяшчаў ня больш 20—30 пунктаў. Пракладку дыяганальных ходаў трэба рабіць на адкрытых і роўных мясцох, імкнучыся да таго, каб лініі гэтых ходаў былі прыблізна роўнавялікі, а куты паміж імі набліжаліся да 180⁰.

> *Увага.* Увязку прыросту пры вылічэньні каардынат раіцца рабіць спосабам праф. Весялоўскага або пры выцягнутых палігонах—спосабам саратаўскіх каморнікаў.

5. Зямлю раіцца расцэньваць па гонавых лініях, якія адзначаны ў натуры тычкамі, а расцэначныя разрады ўстанаўляць па магчымасьці простастаўнымі лініямі да гонавых, скарыстоўваючы ў далейшым гонавыя лініі, як граніцы новых землякарыстаньняў (спосаб зьмешчан у кнізе „Землеустроительное проектирование“ праф. Кіркора). Адносны кошт разрадаў зямельных ужыткаў можа ўстанаўляцца і каэфіцыентамі да асноўнага разраду і ў рублёх (у рублёх больш зразумела насельніцтву); той ці іншы спосаб можа выбіраць сам земляўпарадчык.

6. Для праэктаваньня палос пры дапамозе матэматыкі пры работах гаспадарчага ўпарадкаваньня землякарыстаньняў раіцца, калі ёсьць арытмомэтр, ужываць спосаб і схэму праф. Кіркора, паказаныя на 21-24 стар. брашуры, якая рассылаецца.

Пры ўжываньні камбінаваных мэтадаў (графічных і матэматычных) для праэктаваньня палос шырока карыстацца разасланаю акруговым зямельным аддзелам палеткаю Жыронкіна ў маштабе $^{1}/_{5000}$, нарэзваючы плошчы палос гэтаю палеткаю і вылічваючы папярэчныя разьмеры іх (або разьмеры па ходавых лініях), карыстаючыся найбольш простымі геамэтрычнымі і трыганамэтрычнымі формамі, пры гэтым запраэктаваныя ўздоўжныя межы палос трэба браць графічна з рысунку.

7. Акруговыя зямельныя аддзелы павінны разьмеркаваць арытмомэтры паміж тэхнікамі так, каб было дасягнута максімальнае іх скарыстаньне.

На тых земляўпарадчых работах, дзе тэхнік ня будзе мець магчымасьці карыстацца арытмомэтрам, трэба пры вылічальных работах выпраўляць прырост каардынат да 0,05 мтр., плошчы вылічаць, карыстаючыся разасланымі акруговым земельным аддзелам табліцамі множаньня.

Для эканоміі часу тэхнікаў-земляўпарадчыкаў насельніцтва павінна даваць у іх распараджэньне на ўвесь час вядзеньня палявых вымяральных работ сталых рабочых у ліку ва ўсякім разе ня менш 4-х чалавек.

Бяручы пад увагу інтарэсы бяднейшых двароў, якія магчыма ня будуць мець сродкаў заплаціць сваю долю за найманьне сталых рабочых, трэба раіць грамадзе альбо запрашаць прадстаўнікоў бяднейшых двароў за плату ў якасьці гэтых сталых рабочых, альбо даваць ім магчымасьць адбываць сваю чаргу на работах за лік колькасьці патрэбных звыш сталых рабочых.

9. Усякія акты, згоды і пратаколы, што складаюцца ў працэсе земляўпарадкаваньня, павінны па магчымасьці канцэнтравацца ў штодзённым пратаколе земляўпарадчых дзеяньняў, якія ні ў якім разе ня трэба разумець як дзеньнік і заграмаджаць лішнімі запісамі справаздачнага характару; калі, напрыклад, на працягу 10-ці дзён

рабілася здымка сытуацыі, то за ўсе гэтыя дні ў штодзённым пратаколе зьмяшчаецца адзін кароткі запіс аб сутнасьці праведзеных работ.

Копію гэтага абежніка трэба ў сьпешным парадку разаслаць усім земляўпарадчыкам, якія працуюць у межах акругі.

Начальнік Кіраўніцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй НКЗ БССР **А. Шычко**.

Інспэктар-эканаміст па земляўпарадкаваньні **У. Ліодт**.

Інспэктар Кам.-Тэхн. Часьці **А. Шмэрлінг**.

25 чэрвеня 1927 г.
№ 30.

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ МАГЧЫМАСЬЦІ І ПАРАДКУ ПЕРАЛІЧЭНЬНЯ ЛЯСОЎ МЯСЦОВАГА ЗНАЧЭНЬНЯ Ў ЗЯМЕЛЬНЫ ФОНД.

*Усім акруговым зямельным аддзелам.*

Земляўпарадчыкі пры правядзеньні сваіх работ часта праэктуюць пэралічэньне лясоў мясцовага значэньня ў зямельны фонд, кіруючыся пераважна мэтамі пашырэньня земляўпарадкаванай плошчы.

Грунтуючыся на пастанове Эканамічнай Нарады за 7/IX 1926 г. аб недапушчэньні далейшага скарачэньня лясной плошчы і бяручы пад увагу тое, што лясы мясцовага значэньня, перададзены урадам для ўтварэньня сталага фонду, з якога-б сялянства заўсёды атрымоўвала адпаведную частку патрэбнай яму для гаспадаркі драўніны і што лясы гэтыя спрыяюць затрыманьню вільгаці на тэрыторыі іх месцавырастаньня, ахоўваюць мясцовасьць ад сухменьняў, а ў некаторых выпадках ахоўваюць сельска-гаспадарчыя ўгодзьдзі ад заняседьня лятучымі пяскамі, Народны Камісарыят Земляробства лічыць скарачэньне плошчы лясоў мясцовага значэньня наогул недапушчальным.

У выключных выпадках, дзе гэта будзе бязумоўна патрэбна для стварэньня рацыянальнага земляўпарадчага праэкту, можна праэктаваць пэралічэньне ў зямельны фонд невялікіх кавалкаў лясоў мясцовага значэньня, якія раскіданы сярод земляўпарадкоўваемае плошчы, альбо беспасрэдна, альбо на абмен на няўдобныя пад сельска-гаспадарчае карыстаньне сялянскія землі з мэтаю іх залясеньня.

Пры гэтым трэба:

1) складаць пры ўдзеле лясьнічага і прадстаўніка сельскага савету тэхнічныя акты абгляду па ўстаноўленай форме;

2) зробленыя праэкты пэралічэньняў у зямельны фонд лясоў мясцовага значэньня абавязкова ўзгадняць з аб'яднаньнем лесакарыстальнікаў і складаць адпаведныя аб гэтым акты (прыгавары);

3) кіравацца лясістасьцю раёну, а ў малалесных раёнах з лясістасьцю менш 15 проц. пералічэньняў лясных вучасткаў мясцовага значэньня не рабіць;

4) браць пад увагу ступень кошту дравянога запасу на вучастку; але, калі зьдзяржанасьць дравянога запасу стварылася ў выніку руйнуючых парубак саміх лесакарыстальнікаў пасьля перадачы ім у карыстаньне лесу мясцовага значэньня, то пералічэньне ў зямельны фонд не павінна рабіцца, а на лесакарыстальнікаў павінен быць ускладзены абавязак залясеньня такіх плошчаў.

Усе матар'ялы аб пералічэньні лясных плошчаў мясцовага значэньня ў зямельны фонд разглядаюцца акруговым зямельным аддзелам, пры гэтым адносна плошчаў, на якіх расьце лес да 10 гэктараў

і плошчаў, на якіх не расьце лес,—да 50 гэктараў, акруговы зямельны аддзел па праэктах пералічэньняў выносіць канчатковыя рашэньні, а адносна плошчаў звыш паказаных дае свае заключэньне і справу пе-расылае на канчатковае вырашэньне ў Лясное Кіраўніцтва.

*Увага.* Пярэчаньні лесакарыстальнікаў аб пералічэньні лясоў мясцовага значэньня ў зямельны фонд таксама разглядаюцца і вырашаюцца акруговым зямельным аддзелам.

Аб памянёным прапануецца зрабіць неадкладна распараджэньне, па частцы земляўпарадчай і па частцы лясной.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

Час. вык. аб. Начальніка Ляснога Кіраўніцтва
НКЗ БССР **Хандогі.**

Час. вык. аб. Начальніка Кіраніўцтва Земляўпарадкаваньня, Мэліарацыі і Дзяржаўнай Земельнай Маемасьці
НКЗ БССР **Н. Тамковіч.**

12 ліпеня 1927 г.
№ 31.

---

## 15. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 7-га ЛЮТАГА 1927 г. „АБ КАПІТАЛАХ УСТАНОЎ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА ДЗЯРЖАЎНЫМ БЮДЖЭЦЕ“.

1. Усе ўстановы, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, павінны штогод і не пазьней 15-га ліпеня даваць Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР, паводле дадапай да гэтай інструкцыі формы, зьвесткі аб капіталах скарбу, што знаходзяцца ў іх распараджэньні і ўкладзены ў акцыі, паі, аблігацыі і іншыя каштоўныя паперы.

2. Прадпрыемствы, якія знаходзяцца пад ведамам памянёных у арт. 1 устаноў і існуюць без належнага афармленьня на аснове гаспадарчага разрахунку, павінны быць аформлены ў статутным парадку ў тэрмін, устаноўлены арт. 2 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 7/II 1927 г., а перададзеныя ім каштоўнасьці грашмі і рознаю маемасьцю—уключаны ў іх статутныя капіталы.

*Увага.* Дзеяньне гэтага артыкулу не пашыраецца на тыя дапаможна-гаспадарчыя і навучальна-дапаможныя прадпрыемствы, якія знаходзяцца пры дзяржаўных установах і фінансіруюцца ў бюджэтным парадку або якія знаходзяцца на каштарысе спэцыяльных сродкаў, а таксама на дапаможна-гаспадарчыя прадпрыемствы Народнага Камісарыяту Шляхоў і Народнага Камісарыяту Пошт і Тэлеграфу, якія ня маюць праў юрыдычнай асобы хоць і дзейнічаюць у парадку гаспадарчага разрахунку, але сальдо прыбыткаў і выдаткаў іх праводзіцца па каштарысу гэтых апошніх ведамстваў.

3. Тыя матар'яльныя каштоўнасьці, якія ня будуць перададзены паказаным у арт. 2 установам—трэстам, сындыкатам, акцыйным таварыствам і іншым юрыдычным асобам у іх капіталы, павінны быць астаўлены, калі гэта патрэбна, у карыстаньні гэтых юрыдычных асоб толькі на падставе дагавораў арэнды або пазычак.

Разьмер арэнднай платы за карыстаньне паказанай маемасьці і працэнты за карыстаньне пазычкамі, а таксама час карыстаньня маемасьцю і капіталамі павінны ўстанаўляцца ведамствамі пры афармленьні перадачы маемасьці і капіталаў памянёным юрыдычным асобам, пры гэтым ведамства павінна на працягу 2-х тydняў ад дня заключэньня дагавору з юрыдычнымі асобамі паведаміць Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР умовы гэтых дагавораў.

4. Маемасьць, якая не перададзена паказаным юрыдычным асобам у статутныя капіталы або ў дагаворнае карыстаньне, павінны падлічацца ведамствам і як найхутчэй рэалізавацца як дзяржаўная фондавая маемасьць, а атрыманыя сумы здавацца у даход скарбу па дзяржаўным бюджэце.

5. Калі афармленьне якіх-небудзь з паказаных у арт. 2 прадпрыемстваў будзе прызначана самімі ведамствамі, а таксама заканадаўчымі або дырэктыўнымі органамі БССР—немэтазгодным, то памянёныя ў арт. 1 установы павінны ліквідаваць такія прадпрыемствы на працягу 3-х месяцаў ад дня вырашэньня пытаньня аб немэтазгоднасьці існаваньня апошніх.

Усе грошы ліквідаваных прадпрыемстваў, а таксама сумы атрыманыя ад продажу іх маемасьці павінны быць поўнасьцю здадзены ў даход скарбу.

Усе ведамствы, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, павінны прадугледжваць у сваіх даходна-выдатковых каштарысах, што падаюцца імі штогод у Народны Камісарыят Фінансаў БССР, даходы ад належачых ведамству акцый і паёў, аблігацый і інш. каштоўных папер, а таксама ад арэнднай платы і процантаў за перададзеную ў часовае карыстаньне прадпрыемстваў маемасьць і капіталы на дагаворных умовах, у аб'ясьняльных-жа да каштарысу запісках паказваць падрабязнае абгрунтаваньне параўнаньня гэтых даходаў.

Час. вык. аб. Народнага Камісара
Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

Нач. Кіраўніцтва Дзяржаўных Даходаў **М. Абрамсон.**

5 ліпеня 1927 г.

Дадатак да арт. 1 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР за 5-га ліпеня 1927 г. аб капіталах устаноў, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце.

ФОРМА.

## Зьвесткі аб капіталах скарбу, укладзеных (назва ўстановы) у акцыі і паі, аблігацыі і іншыя каштоўныя паперы на 1-е ліпеня 192 году.

| Назва ўстановы і прадпрыемст. ў паі і акцыі якімі зьмешчаны дзяржаўныя капіталы, а такса ма ў аблігацыі і каштоўныя паперы. | На якіх умовах укладзены капіталы ў акцыі і паі і на падставе якога распараджэньня | Разьмер укладзеных у паі, акцыі, аблігацыі і іншыя каштоўныя паперы капіталаў на 1-ае кастрычніка 192....году | Разьмер процантаў або дывідэнду, належачага да атрыманьня на ўкладзеныя капіталы на той самы тэрмін | Разьмер капіталаў укладзеных у акцыі, паі, аблігацыі і іншыя каштоўныя паперы з 1-га кастрычніка да 1-га ліпеня бягучага бюджэтнага году | Усяго ўкладзена капіталаў у акцыі, паі, аблігацыі і іншыя каштоўныя паперы на 1-ае ліпеня 192.... г. (гр. 3 і 5). | Сума, якая можа быць укладзена ў акцыі, паі, аблігацыі і інш. каштоўныя паперы за час з 1-га ліпеня да 1-га кастрычніка бягучага бюджэтнага году | Усяго можна мець капіталаў, зьмешчаных у акцыі, паі, аблігацыі і інш. каштоўныя паперы да канца бягучага бюджэтнага году (гр. 3, 5, 7). | Налічана дывідэнду або процантаў на ўкладзеныя капіталы за справаздачны пэрыяд | Усяго трэба было атрымаць проц. і дывідэнду за справаздачны пэрыяд. (гр. 4 і 9) | Фактычна атрымана дывідэнду і процантаў за справаздачны пэрыяд | На што накіраваны атрыманыя ўстановаю ў справаздачным пэрыядзе дывідэнд і проценты | Колькі яшчэ павінна быць атрымана дывідэнду і процантаў | У в а г а |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | | | | | | | | | |

## 16. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ДНІ ШТОТЫДНЁВАГА АДПАЧЫНКУ ДЛЯ РАБОТНІКАЎ ВІДОВІШЧЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ.

Для разьвіцьця пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 30 сакавіка 1927 г. № 62 „Аб дні штодыднёвага адпачынку для работнікаў відовішчых прадпрыемстваў" („Известия НКТ СССР" 1927 г. №16) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Днём штотыднёвага адпачынку для работнікаў відовішчных прадпрыемстваў БССР ўстанавіць панядзелак.

2. У асобныя дні адпачынку, якія ўстанаўляюцца на падставе арт. 112 Кодэксу Законаў аб Працы і якія сходзяцца з штотыднёвымі днямі адпачынку, работа ў відовішчых прадпрыемствах можа весьціся, але гэтыя дні павінны быць абавязкова заменены іншымі выхаднымі днямі.

*Увага.* У зьвязку з тым, што работнікі розных вер карыстаюцца рознымі асобнымі днямі адпачынку, арт. 2 гэтай пастановы пашыраецца выключна на тыя асобныя дні адпачынку, якія прадугледжаны для данага прадпрыемства правіламі ўнутранага парадку.

3. Работа ў відовішчных прадпрыемствах можа весьціся ў дні штотыднёвага адпачынку работнікамі гэтых прадпрыемстваў толькі з дазволу органаў Народнага Камісарыяту Працы БССР, якія ўзгоднены да гэтага з прафэсіянальным саюзам працаўнікоў мастацтва.

4. З часу выданьня гэтай пастановы трацяць сілу ўсе раней выданыя пастановы аб дні адпачынку работнікаў відовішчных прадпрыемстваў і арт. 9 пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР і ЦСПСБ за 7 красавіка 1925 г. „Аб рэвалюцыйных сьвятах і асобных днёх адпачынку" (З. З БССР 1925 г., № 21, арт. 199).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк**.

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік**.

Узгоднена | з ЦСПСБ—**З. Каган**.
з ЦП прафэсіянальнага саюзу работнікаў мастацтва—**Табайнік**.

7 ліпеня 1927 г.
№ 69.

---

## 17. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ АДКАЗНАСЬЦІ ЗА НЕВЫКАНАНЬНЕ ПРАВІЛ ПА ТЭХНІЦЫ БЯСЬПЕЧНАСЬЦІ НА ПРАЦАХ, ЯКІЯ ПРАВОДЗЯЦЦА ПАДРАДНЫМ СПОСАБАМ.

У разьвіцьцё арт. 139 Кодэксу Законаў аб Працы, Народныя Камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Здача прадпрыемствам падраду на праўядзеньне работы ў межах прадпрыемства ня зьнімае з яго абавязку агульнага нагляду за тэхнікаю бясьпечнасьці пры правядзеньні гэтай работы.

2. Калі з працоўным здарыўся няшчасны выпадак таму, што прадпрыемствам, якое здавала падрад, а таксама падрадчыкам і назначаным ім кіраўнікам паасобнай работы ня выконваліся абавязкі па тэхніцы бясьпечнасьці, то за шкоду, зробленую працоўнаму аднолькава адказваюць прадпрыемства, падрадчык і кіраўнік адпаведнай работы.

*Увага.* Калі-ж няшчасны выпадак з працоўным здарыўся таму, што абавязкі па тэхніцы бясьпечнасьці ня выконваліся падрадчыкам і назначаным ім кіраўнікам паасобнай работы, але прадпрыемства, якое здала падрад, абавязкі па тэхніцы бясьпечнасьці выканала, то адказнасьць за шкоду, зробленую працоўнаму, ускладаецца толькі на падрадчыка і кіраўніка адпаведнай работы.

3. Дагаворы, заключаныя паміж прадпрыемствам і падрадчыкам або паміж падрадчыкам і кіраўнікам паасобнай работы, ня зьнімаюць ні з каго ўстаноўленай беспасрэднай адказнасьці перад працоўным.

Паказаныя дагаворы могуць прадугледжваць толькі магчымасьць падачы рэгрэсных іскаў і парадак узаемных разрахункаў па адплаце сум, якія выданы працоўнаму.

4. Калі работы праводзяцца падрадным спосабам па-за межамі прадпрыемства, дзе няма яго тэхнічнага нагляду, то за няшчасныя выпадкі з працоўнымі адказваюць аднолькава падрадчык і кіраўнік адпаведнай работы. Прадпрыемства ў такіх выпадках не адказвае за шкоду, зробленую працоўнаму.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

9 ліпеня 1927 г.
№ 71.

## 18. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ УВЯДЗЕНЬНІ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ СССР ЗА 5 ЛЮТАГА 1927 Г. № 25 „АБ ПРАВІЛАХ БЯСЬПЕЧНАСЬЦІ ПРЫ АРГАНІЗАЦЫІ І ПРАВЯДЗЕНЬНІ КІНО-ЗДЫМАК“.

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 18 абавязковай пастановы Народнага Камісарыяту Працы СССР за 5 лютага 1927 г. № 25 „Аб правілах бясьпечнасьці пры арганізацыі і правядзеньні кіно-здымак“ („Известия НКТ СССР“ 1927 г. № 9) пастанавіў— увесьці ў сілу паказаную вышэй пастанову на тэрыторыі БССР.

Вык. аб. Народнага Камісара Працы БССР **С. Мышалаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Працы БССР **А. Круглік.**

25 ліпеня 1927 г.
№ 72.

## 19. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

АБ УРАЎНЕНЬНІ ДЗЯЦЕЙ НАСТАЎНІКАЎ І ВЫХАВАЛЬНІКАЎ З ДЗЯЦЬМІ РАБОЧЫХ ПРЫ ПАСТУПЛЕНЬНІ Ў НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ.

У дадатак да свае пастановы № 110 за 30 чэрвеня 1927 г., *) Народны Камісарыят Асьветы пастанаўляе:

Да пералічаных у § 1 паказанай вышэй пастановы груп па карыстаньні правам на паступленьне ў навучальныя ўстановы БССР на аднолькавых умовах з дзяцьмі рабочых прыраўняць і дзяцей настаўнікаў наступных культурна-асьветных устаноў: савецкіх партыйных школ, школ рабочай молодзі, школ для малапісьменных, ліквідацыйных пунктаў, устаноў для дэфэктыўных дзяцей (Інстытут Сацыяльнага Перавыхаваньня, Інстытут для глуханямых, Інстытут для разумова-адсталых дзяцей, Школа сьляпых), а таксама і выхавальнікаў (выхавальніц, кіраўнічак) дзіцячых дамоў, садоў і дзенных дзіцячых прытулкаў.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

За Сакратара Н. К. Асьветы БССР **М. Пуцыковіч.**

23 ліпеня 1927 г.
№ 116.

---

## 20. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

АБ ПАРАДКУ РЭГІСТРАЦЫІ ТАВАРНЫХ ЗНАКАЎ.

*Акруговым выканаўчым камітэтам.*

У Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР пачынаюць паступаць заявы некаторых камунальных трэстаў аб рэгістрацыі іх таварных знакаў (напр. Бабруйскі Камунальны Трэст).

З тае прычыны, што рэгістрацыя таварных знакаў згрупавана, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 12 чэрвеня 1926 г., у Камітэце па Справах аб Вынаходках у Ленінградзе, куды беспасрэдна павінны зварочвацца з заявамі аб рэгістрацыі сваіх знакаў прамысловыя і гандлёвыя прадпрыемствы, дадаючы да гэтага адпаведныя дакумэнты (копіі статуту, квіткі аб узносе 10 р. пошліны, тры экзэмпляры малюнку знакаў і яго апісаньне), Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР просіць запрапанаваць падпарадкаваным трэстам і прадпрыемствам, каб для адхіленьня ад працягу часу, яны не накіроўвалі названыя заявы ў Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі БССР, бо ў працiўным выпадку Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі БССР трэба ад сябе адсылаць гэтыя заявы ў Камітэт.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнае
Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Нач. Адм.-Гасп. Кіраўніцтва **А. Лучышын.**

4-га ліпеня 1927 г.
№ 72.

---

*) Пастанова Н. К. Асьветы № 110 зьмешчана ў Бюлетэні СНК БССР № 12 (37) 1927 г.

## 21. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

АБ СВАЯЧАСНАЙ ВЫПЛАЦЕ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ РАБОЧЫМ.

*Дырэктарам трэстаў і гаспадарчых адзінак.*

У апошні час у некаторых трэстах наглядаецца сыстэматычнае спазьненьне з выплатаю заработнай платы рабочым.

Прэзыдыум Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР лічыць такую зьяву зусім недапушчальнаю і катэгарычна прапануе зрабіць усе захады да таго, каб у першую чаргу выплачвалася заработная плата рабочым ва ўстаноўленыя калектыўным дагаворам тэрміны.

Аб усіх выпадках несваячаснай выплаты заработнай платы трэба неадкладна паведамляць Прэзыдыум ВСНГ БССР, паказваючы прычыны затрымкі.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай
Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

4 ліпеня 1927 г.
№ 73.

---

## 22. Пытаньні і адказы.

Запытаньні Сеньненскага Гарадзкога Савету Віцебскае акругі (бяз даты).

ПЫТАНЬНЕ **86**. Сеньненскі Гарадзкі Савет просіць растлумачыць пункт 65 „Палажэньня аб Гарадзкіх Саветах БССР“, які кажа, што „члены гарадзкога савету, пасьля паказаньня свайго мандату, карыстаюцца вольным доступам без чаргі ва ўсе бяз выняткаў гарадзкія ўстановы і прадпрыемствы і да ўсіх службовых асоб, а таксама маюць права патрабаваць выдачы ім патрэбных даведак і аб‘ясьненьняў, за выняткам сакрэтных зьвестак, для дачы якіх патрэбен дазвол Прэзыдыуму“:

1) Ці члены гарадзкога савету карыстаюцца вольным доступам у гарадзкія ўстановы і прадпрыемствы аднолькава з усімі грамадзянамі, але толькі без чаргі?

2) Ці члены гарадзкога савету карыстаюцца вольным доступам толькі ў тыя ўстановы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца пад ведамам гарадзкога савету, ці наогул ва ўстановы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца на тэрыторыі гарадзкога савету, незалежна ад таго, якога яны значэньня—раённага, акруговага, або цэнтральнага?

3) Ці мае права член гарадзкога савету на падставе гэтага (65) пункту дарэмна хадзіць у культурныя ўстановы гораду (тэатр, кіно і інш.)?

4) Ці пашыраецца гэты пункт на кандыдатаў гарадзкога савету?

АДКАЗ. Арт. 65 „Палажэньня аб гарадзкіх саветах“ (З. З. БССР 1926 г. № 17, арт. 60), зьмешчаны ў разьдзеле VI „Абавязкі і правы членаў гарадзкіх саветаў“ і мае на ўвазе іх службовыя правы, г. зн., правы, якія ім даюцца, калі яны выступаюць, як члены гарадзкога савету, а ня як грамадзяне.

У зьвязку з гэтым:

1) Члены гарадзкога савету карыстаюцца правам вольнага доступу ва ўсе бяз вынятkaў гарадзкія ўстановы і прадпрыемствы ў тым ліку і ў тыя, у якія вольнага доступу ўсім грамадзянам не ўстаноўлена; там, дзе ўстаноўлены вольны доступ усім грамадзянам, члены гарадзкога савету па службовых справах карыстаюцца доступам без чаргі.

2) У сувязі з літ. „г“ арт. 22 „Палажэньня“, паводле якога гарадзкія саветы „кантралююць прадпрыемствы і ўстановы, якія не знаходзяцца пад ведамам гарадзкога савету і, ня ўмешваючыся ў іх работу, па магчымасьці дапамагаюць ім“, члены савету павінны мець доступ, як ва ўстановы і прадпрыемствы, падпарадкаваныя беспасрэдна гарадзкому савету, так і ў паказаныя ў п. „г“ арт. 22, г. зн., ва ўстановы і прадпрыемствы хоць бы і не падпарадкаваныя беспасрэдна гарадзкому савету, але якія дзейнічаюць на тэрыторыі гораду.

3) Правам вольнага доступу ў культурна-асьветныя ўстановы (тэатры, кіно і інш.), а таксама ў гаспадарчыя (сталоўкі, лазьні і інш.) у парадку арт. 65 „Палажэньня аб гарадзкіх саветах“ члены гарадзкіх саветаў карыстаюцца для ажыцьцяўленьня сваіх праў па нагляду, карыстацца-ж гэтымі ўстановамі і прадпрыемствамі члены гарадзкога савету маюць права толькі ў агульным парадку. Што тычыць дачы мясцоў у тэатрах, кіно і ў іншых такіх установах, то лік мясцоў і асобы, якім даюцца дарэмныя месцы ў час паказу, павінны рэгулявацца спэцыяльнымі правіламі, якія выдаюцца тымі органамі, пад ведамам якіх знаходзяцца адпаведныя ўстановы.

4) Кандыдаты ў члены гар. сав. хоць і маюць права браць удзел у пасяджэньнях гарадзкога савету з дарадчым голасам, а таксама ў сэкцыях і камісіях, але гэтым правам карыстаюцца і інш. грамадзяне, паказаныя ў „Палажэньні аб гарадзкіх саветах“; службовымі правамі, паказанымі ў арт. 65, кандыдаты карыстаюцца тады, калі яны ўваходзяць у склад савету ў парадку ўвагі да арт. 9 або да арт. 66.

(Адказ дадзены Аддзелам Заканадаўчых Праэктаў НКЮ БССР за 13 ліпеня г. г. № 42/1).

## Запытаньні Сьвіслацкага Раённага Выканаўчага Камітэту Бабруйскае акругі за 10 чэрвеня 1927 г. № 4384.

ПЫТАНЬНЕ 87. Паводле § 11 „Палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў“ справа аб праваparушэньні, якое караецца ў адміністрацыйным парадку, а таксама тых, якія караюцца паводле некаторых артыкулаў Крым. Кодэксу, як 1 ч. 99 і інш., павінна быць разгледжана на працягу 2 месяцаў ад моманту правапарушэньня, у адваротным выпадку такая справа спыняецца.

Як-жа быць з карнявой вартасьцю, г. зн. ці спаганяецца яна?

АДКАЗ. Правапарушэньне, забароненае пад страхам ужыцьця мер сацыяльнай абароны, выклікае два вынікі: а) пакараньне асобы, якая зрабіла правапарушэньне і б) абавязак гэтае асобы сплаціць выкліканую правапарушэньнем шкоду.

Паказаныя вынікі існуюць незалежна адзін ад другога ў тым сэнсе, што пакараньне можа ў сапраўднасьці ня быць (напр., калі правапарушэньне зроблена недалеткам), а сплата шкоды так і застанецца на абавязку асобы, зрабіўшай правапарушэньне, ці на той асобе, якая павінна была наглядаць за правапарушнікам.

Гэта тлумачыцца тым, што памянёныя вынікі маюць зусім розную прыроду: тады, як пакараньне выклікаецца інтарэсамі дзяржавы,

каб не рабіліся пэўныя небясьпечныя дзеяньні, сплата шкоды складае галіну грамадзянскіх адносін.

Дапасоўваючы гэтыя меркаваньні да паказанага запытаньня, трэба сказаць, што спагнаньне карнявой вартасьці самавольна высубанага лесу, як сплата зробленай вырубкаю лесу маемаснай шкоды, не залежыць ад магчымасьці пакараньня вінаватай асобы і таму можа быць і ў тым выпадку, калі пакараньне паводле тае ці іншае прычыны ня можа быць ужыта, і пры гэтым ня працягу 3 год.

ПЫТАНЬНЕ 88. Аб вырубцы дрэва, якое адзінока стаіць на палосцы грамадзяніна і зьяўляецца, паводле абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 1925 год № 105, уласнасьцю селяніна, апошні зварочваецца ў народны суд аб спагнаньні вартасьці вырубанага дрэва, але суд звычайна ў такіх выпадках такія заявы накіроўвае ў раённы выканаўчы камітэт для прыцягненьня парубшчыка да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку.

Ці павінен суд у такіх выпадках прымаць заявы ад грамадзян, маючы на ўвазе, што за самавольную парубку парубшчык прыцягваецца раённым выканаўчым камітэтам да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку паводле пратаколу сельскага савету, які складаецца ім апроч заявы таго грамадзяніна, чыё дрэва вырубана?

АДКАЗ. Адказнасьць у адміністрацыйным парадку паводле 1 ч. 99 арт. К. К. ўстаноўлена за дзеяньні, якія маюць сваім аб'ектам лес.

Паасобныя дрэвы, якія стаяць на палосках грамадзян і знаходзяцца ў іх выключным распараджэньні, лесу не складаюць, дзеля чаго і самавольная парубка такіх дрэў ня можа карацца ў адміністрацыйным парадку, як лесапарушэньне.

Парубка такіх дрэў ня можа карацца ў адміністрацыйным парадку, як лесапарушэньне.

Парубка такіх дрэў павінна кваліфікавацца ў залежнасьці ад акалічнасьцяй дзеяньня як крадзеж, наўмыснае пашкоджаньне чужой маемасьці (арт. 196 Крым. Код.) або самаўпраўства (арт. 103 Крым. Код.), але ні ў якім выпадку не паводле арт. 99 Крым. Код.

Што датычыцца сплаты шкоды, якая выклікана парубкаю дрэва, то такая можа быць, па патрабаньні пакрыўджанай асобы, устаноўлена прысудам крымінальнага суду ў парадку вырашэньня грамадзянскага іску ў крымінальнай справе або прысуджана асобна ад крымінальнай справы грамадзянскім судом і нават незалежна ад прыцягненьня асобы, якая зрабіла парубку, да крымінальнай адказнасьці (калі ёсьць умовы, якія перашкаджаюць падняцьцю крымінальнай справы: 4 і 4-а арт. КПК).

З паказанага вышэй вынікае, што парубка чужых паасобных дрэў ня можа карацца ў адміністрацыйным парадку, але выключна ў судовым, а сплата вартасьці вырубленага дрэва павінна спаганяцца на падставе прысуду па крымінальнай справе або рашэньня грамадзянскага суду, пастаноўленага асобна ад крымінальнай справы, або незалежна ад падняцьця.

(Адказы на пытаньні 87—88 даюцца Народным Камісарыятам Юстыцыі БССР за 9 ліпеня 1927 г. № 140/І).

## 23. Трэба ўзмацніць ролю акруговых плянавых камісій.

*(У парадку абмеркаваньня).*

Народная гаспадарка ня можа разьвівацца ў далейшым з посьпехам бяз пляну. Гэтага папулярызаваць цяпер не даводзіцца.

У акругах для плянаваньня мясцовай гаспадаркі ў 1926 г. былі ўтвораны плянавыя камісіі, якія зьяўляюцца, паводле палажэньня, сталымі органамі пры акруговых выканаўчых камітэтах. У асноўным камісіі складаюцца з прадстаўнікоў акруговых аддзелаў. Старшынямі акруговых плянавых камісій у большасьці зьяўляецца нам. старшыні акруговага выканаўчага камітэту.

Трэба адзначыць, што і склад членаў і сталыя працаўнікі плянавых камісій ня ўсюды адпавядаюць тым задачам, якія ўскладзены на плянавыя органы. Плянавая праца патрабуе ў першую чаргу высокакваліфікаваных спэцыялістаў з тае прычыны, што мясцовая гаспадарка складаецца з розных галін; трэба, каб у акруговай плянавай камісіі былі спэцыялісты па асноўных галінах (па сельскай гаспадарцы, па гандлю, па фінансах, камунальнай гаспадарцы, мясцовай прамысловасьці і інш.). Падбор-жа гэтых працаўнікоў у акругах цяжка зрабіць, бо, з аднаго боку, у акругах няма вольных сіл (гэтых кваліфікацый), а, з другога боку, ускладняе вырашэньне гэтага пытаньня невялікая матар'яльная забясьпечанасьць, якая даецца акруговымі плянавымі камісіямі.

Яшчэ трэба адзначыць, што з прычыны, паказанай ніжэй, ня ўсе акруговыя выканаўчыя камітэты добра вывучылі патрэбу колькаснага і якаснага падбору працаўнікоў для акруговых плянавых камісій. Што гэта так, пераконвае нас прапанова 2-х акруговых выканаўчых камітэтаў устанавіць штаты для акруговых плянавых камісіі з 1 сакратара. Зразумела, што прапанаваць такі штат для акруговых плянавых камісій толькі можна ў перакананьні, што гэты апарат патрэбен толькі для фармальнасьці.

Проста вырашыла і Штатная Камісія гэта пытаньне, хаця яна дала колькасна больш, чымся прапанавалі паказаныя два акруговыя выканаўчыя камітэты. Для ўсіх акруговых плянавых камісій устаноўлены быў штат з 2 адзінак, апроч старшынь, бо яна лічыла, што і на далей старшыні павінны быць ня сталымі працаўнікамі. Між тым яны вельмі патрэбны. Ня зроблена таксама ніякай розьніцы паміж плянаваю камісіяю, якая працуе ў вялікай і сталічнай акрузе, і плянаваю камісіяю невялікай акругі.

Зусім зразумела, што і штаты, устаноўленыя Штатнаю Камісіяю, ня могуць забясьпечыць, нават у мінімальнай меры, працаздольнасьць плянавых органаў у акругах. Трэба дзеля гэтага лічыць прапанову

Дзяржаўнай Плянавай Камісіі больш жыцьцёваю, каб штаты акруговых плянавых камісій складаліся з 3-4 чалавек, у залежнасьці ад ступені гаспадарчага развіцьця тае ці іншае акругі. Прапанову Дзяржаўнай Плянавай Камісіі зацьвердзіў і СНК.

Трэба таксама падумаць аб зьменах у складзе членаў акруговых плянавых камісій. Сыстэму прадстаўніцтва нельга прызнаць апраўданай. У акруговых плянавых камісіях, у першую чаргу, патрэбны людзі, якія сапраўды разьбіраюцца ў разнастайных пытаньнях культурна-гаспадарчага жыцьця акругі. Недапушчальным трэба таксама лічыць „ведамственны“ падыход, які часта ёсьць у прадстаўнікоў ведамстваў. Бяз гэтых 2-х асноўных умоў роля акруговых плянавых камісій, як органаў, якія дамагаюць АВК ў кіраваньні гаспадарчым і культурным жыцьцём акругі, ня будзе апраўдана.

З гэтай прычыны трэба лічыць зусім мэтазгодным пэрсанальнае назначэньне членаў акруговых плянавых камісій. Пры гэтым, зразумела, члены акруговых плянавых камісій могуць падбірацца з найбольш здольных і ведаючых справу працаўнікоў асноўных ведамстваў акругі.

Не ва ўсіх акруговых плянавых камісіях існуе аднастайная структура. У некаторых ёсьць сэкцыі, у іншых няма. Нам здаецца, што найбольш мэтазгоднаю структураю, бяручы пад увагу патрэбу дакладнай распрацоўкі пытаньняў, было-б існаваньне пры акруговых плянавых камісіях сэкцый сельска-гаспадарчай, камунальнай гаспадаркі і мясцовай прамысловасьці, гандлёва-фінансавай і агульнай (сацыяльна культ. і інш. пытаньні). Сэкцыі павінны быць акружаны навуковымі сіламі акругі. Трэба, каб за ўдзел на пасяджэньнях сэкцыі давалі пажэтонны ганарар. Адпаведныя сумы для гэтага павінны быць прадугледжаны акруговым бюджэтам.

Трэба таксама падумаць аб зьмесьце працы акруговых плянавых камісій.

Чым павінны займацца акруговыя плянавыя камісіі? Пытаньне, якое, як быццам, не патрабуе адказу пры існаваньні зацьверджанага палажэньня акруговых плянавых камісій. Фактычна гэта ня так. Тое, што да гэтага часу ня ўсюды акруговыя плянавыя камісіі маюць патрэбны ім аўтарытэт, трэба растлумачыць выключна тым, што на справе абсяг працы акруговых плянавых камісій ня вызначаны.

Акруговая плянавая камісія зьяўляецца сталай камісіяй пры акруговым выканаўчым камітэце і апошні перадае ёй для распрацоўкі ня толькі пытаньні, якія патрабуюць плянаваньня, але і пытаньні, якія павінны быць вырашаны адміністрацыйным парадкам.

Акруговыя плянавыя камісіі часам вырашаюць пытаньні, якія ня зусім падрыхтаваны для плянаваньня. Як прыклад, можна адзначыць пастанову аднае акруговае плянавае камісіі аб распачатку будаваньня акруговым жылішчным саюзам шматпаверхавага дому, у той час, калі апошні ня меў праэкту каштарысу і даных аб матар'яльных крыніцах.

Асноўная ўвага акруговых плянавых камісій павінна быць накіравана на плянаваньне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва акруг. Трэба падкрэсьліць, што тут падразумяваецца і гаспадарча-культурнае будаўніцтва гарадоў, якія знаходзяцца пад ведамам гарадзкіх саветаў, бо тыя даныя, якія ёсьць, гавораць аб тым, што сувязі паміж акруговымі плянавымі камісіямі і гарадзкімі саветамі няма. Акруговыя плянавыя камісіі павінны займацца дасканальнаю распрацоўкаю пэрспэктыўных плянаў разьвіцьця гаспадаркі акругі і кантрольных лічб на бліжэйшы год. Акруговыя плянавыя камісіі

павінны наглядаць за ажыцьцяўленьнем плянавасьці акруговымі арганізацыямі. У галіне плянавасьці у акругах шмат недахопаў, вынікамі якіх былі вялікія матар'яльныя страты.

Натуральна, што кіраўніцтва Дзяржаўнай Плянавай Камісіі БССР акруговымі плянавымі камісіямі павінна быць узмоцнена. У гэтай частцы Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю зроблены ўжо шэраг мерапрыемстваў. Утворана ў апараце Дзяржаўнай Плянавай Камісіі асобная ячэйка для кіраваньня і інструктаваньня акруговых плянавых камісій. Склікаецца ў жніўні гэтага году нарада акруговых плянавых камісій, на якой будуць абмяркованы кантрольныя лічбы на 1927-28 год і пяцігадовы пэрспэктыўны плян разьвіцця народнай гаспадаркі БССР. Абмеркаваньне гэтых пытаньняў дасьць магчымасьць аднолькава мэтадалёгічна разумець распрацоўку і ажыцьцяўленьне гэтых пытаньняў у акруговым разрэзе. Будуць выслуханы даклады Менскай, Магілеўскай і Полацкай акруговых плянавых камісій аб іх дзейнасьці. На падставе крытычнага абмеркаваньня работ гэтых акруговых плянавых каміісій будзе намечаны кірунак работ акруговых плянавых камсій на бліжэйшы год.

Узмацненьне акруговых плянавых камісій на мясцох і іх сувязі з Дзяржаўнаю Плянаваю Камісіяю дасьць магчымасьць вывучыць і плянаваць народную гаспадарку БССР з большым посьпехам, што вельмі патрэбна для прысьпешаньня сацыялістычнага будаўніцтва.

**М. Баран.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

# АБВЕСТКА.

Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР

**паведамляе, што з І-га ліпеня 1927 году**

ВЫДАНЬНЕ

## „ЗБОРУ ЗАКОНАЎ І ЗАГАДАЎ РАБОЧА-СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ БССР“

перайшло ад Выдавецкага П/аддзелу Аддзелу Заканадаўчых Праэктаў НКЮ БССР

да Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР,

якому і трэба цяпер накіроўваць усю перапіску аб падпісцы і аб высылцы №№ „Збору Законаў і Загадаў Рабоча-Сялянскага Ўраду БССР“.

Разам з гэтым паведамляецца, што для ўстанаўленьня дакладнага тыражу „Збору Законаў і Загадаў Рабоча-Сялянскага Ўраду БССР“ на 1927—28 бюдж. год усе зацікаўленыя ўстановы і асобы павінны зрабіць свае заяўкі на „Збор Законаў і Загадаў“ да 1-га кастрычніка гэтага году.

**Падпіску і грошы накіроўваць**

па адрэсу: гор Менск, Пляц Волі, № 17, Інфармацыйнаму Аддзелу Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР.

Кіраўнік Спраў СНК і
Эканамічнай Нарады БССР **М. Мароз.**